Каханоўскі А.Г. Міжсаслоўная сацыяльная мабільнасць насельніцтва Беларусі ў другой палове XIX - пачатку XX ст./А.Г. Каханоўскі//Российские и славянские исследования : науч. сб. Вып. 7 / редкол. : А. . П. Сальков, О. А Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск : БГУ, 2012. — с. 80-91.

**А. Г. Каханоўскі**

# МІЖСАСЛОЎНАЯ САЦЫЯЛЬНАЯ МАБІЛЬНАСЦЬ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

Важнае месца ў вывучэнні трансфармацыйных працэсаў беларускага грамадства другой паловы XIX — пачатку XX ст. займаюць пытанні сацыяльнай мабільнасці насельніцтва — пераходу чалавека з аднаго саслоўя ці класа ў іншы, з адной унутрысаслоўнай, унутрыкласавай групы ў іншую, сацыяльных перамяшчэнняў паміж пакаленнямі і г. д. Вылучаюцца вертыкальная і гарызантальная мабільнасць. Да першай адносяцца пераходы з адной страты (саслоўе, клас) у іншую, да другой — перамяшчэнні на адным і тым жа сацыяльным узроўні. Вертыкальная мабільнасць падзяляецца на ўзыходную (перамяшчэнні ўверх па сацыяльнай лесвіцы) і сыходную (перамяшчэнні ўніз) [31, с. 373–374]. Адрозніваюцца паміж сабой таксама індывідуальная мабільнасць, звязаная з сацыяльнымі перамяшчэннямі аднаго чалавека незалежна ад іншых, і групавая мабільнасць, калі адбываюцца калектыўныя пераходы. Сацыяльная мабільнасць — механізм, з дапамогай якога фарміруецца сацыяльная структура грамадства, а сацыяльная дыферэнцыяцыя ўяўляе сабой вынік працэсаў сацыяльнай мабільнасці [16, с. 49].

На працягу другой паловы XIX — пачатку XX ст. змяняліся формы і дынаміка сацыяльных перамяшчэнняў. Афіцыйна ўстаноўленыя межы сацыяльна-саслоўных груп не маглі стрымліваць, а тым больш адлюстроўваць імклівае грамадскае развіццё. Прававыя абмежаванні цалкам не перашкаджалі сацыяльным зменам. Тут больш выяўляліся арганізацыйная слабасць, нявызначанасць і сацыяльная фрагментацыя ўрадавай палітыкі [14, с. 129].

Навуковая актуальнасць вывучэння эвалюцыі сацыяльнай мабільнасці насельніцтва для аналізу працэсаў сацыяльнай трансфармацыі беларускага грамадства ў другой палове XIX — пачатку XX ст. падмацоўваецца нераспрацаванасцю праблемы ў айчыннай гістарыяграфіі. Яна фактычна не ставілася беларускімі гісторыкамі ў якасці самастойнага прадмета вывучэння. Асобныя заўвагі і лічбавыя даныя аб сацыяльных перамяшчэннях гарадскіх жыхароў дадзены ў даследаванні З. Шыбекі [34], купецтва — у манаграфіі Н. Палятаевай [27], дваранства — у даследаваннях А. Жытко [10], сялянства — у працах М. Улашчыка [33], В. Панюціча [25], С. Токця [32], змены сацыяльна-прававога становішча дробнай шляхты — у работах В. Макарэвіча [15] і інш. Па-за ўвагай даследчыкаў засталіся шэраг пытанняў, без разгляду якіх немагчыма цэласнае ўспрыяцце названай канцэптуальнай праблемы. У іх пераліку эвалюцыя саслоўна-карпаратыўнай сістэмы як цэласнай арганізацыі насельніцтва, шляхі і дынаміка яго сацыяльнай і тэрытарыяльнай мабільнасці, рост узроўню і якасьці пісьменнасці як фактару, які быў вызначальным для сацыяльных змен у грамадстве, і інш. Аналіз сацыяльнай структуры і сацыяльнай мабільнасці дазваляе таксама адказаць на пытанні аб ступені завершанасці працэсаў станаўлення беларускай нацыі, прычынах спецыфічных рыс этнакансалідацыйных працэсаў на тэрыторыі Беларусі.

* Статья выполнена в рамках подпрограммы научных исследований на 2011—2015 гг. «История и культура» ГПНИ «История, культура, общество и государство».

**Кохановский Александр Геннадьевич** — заведующий кафедрой истории Беларуси нового и новейшего времени Белорусского государственного университета, кандидат исторических наук, доцент

У дадзеным артыкуле пастаўлена задача вызначэння асноўных кірункаў міжсаслоўнай сацыяльнай мабільнасці насельніцтва Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст., характарыстыкі сацыяльных перамяшчэнняў дваранства, купецтва, мяшчанства і сялянства Беларусі.

У адрозненне ад вывучэння сацыяльнай мабільнасці сацыёлагамі, дзе ў даследчыка ёсць магчымасць сфарміраваць даныя ў адпаведнасці з пастаўленай задачай, гісторыкам у праекцыі на пэўную адлегласць у часе даводзіцца мець справу з той інфармацыяй, якая маецца ў крыніцах і часта характарызуе сацыяльную мабільнасць ускосна і фрагментарна. Для вызначэння сацыяльнай мабільнасці насельніцтва Беларусі другой паловы XIX — пачатку XX ст. статыстычнага матэрыялу вельмі мала і ён дастаткова фрагментарны, не дазваляе дакладна акрэсліць памеры і дынаміку сацыяльных перамяшчэнняў саслоўных груп насельніцтва. У дадзеным выпадку для вывучэння міжсаслоўнай мабільнасці каштоўнасць маюць матэрыялы справаводства (хадайніцтвы, прыгаворы розных устаноў, рашэнні дзяржаўных органаў і інш.), заканадаўчыя дакументы і г. д.

На працягу другой паловы XIX — пачатку XX ст. выразна пашыраецца колькасць форм сацыяльнай мабільнасці. Можна назіраць параўнальныя змены сацыяльнага статуса ў прадстаўнікоў розных пакаленняў — міжпакаленную мабільнасць. У апошнія дзесяцігоддзі азначанага перыяда больш заўважнымі становяцца працэсы ўнутрыпакаленнай мабільнасці — змяненні сацыяльнага статусу асобы на працягу жыцця аднаго пакалення. Даступнасць шляхоў сацыяльнай мабільнасці нават ва ўмовах станаўлення індустрыяльнага грамадства шмат у чым залежыла ад асобы, а таксама ад структуры грамадства, у якім яна жыла. Для таго, каб цалкам змяніць сацыяльны статус у асобы, часта паўставала праблема ўваходжання ў новую субкультуру групы, асабліва з больш высокім статусам. Недастаткова было дасягнуць пэўнага ўзроўню матэрыяльнага дабрабыту, параўняцца ў даходах з прадстаўнікамі больш высокага сацыяльнага слоя. Патрэбна было прыняць новы стандарт бытавой культуры, а таксама засвоіць узор паводзін, характэрны для больш высокай сацыяльнай групы, уключыцца ў сістэму яе сацыяльных сувязяў, сацыяльнага акружэння. Сацыяльная мабільнасць ставіць індывіда ва ўмовы неабходнасці адаптацыі да новага сацыяльна-культурнага асяродку.

Саслоўная прыналежнасць у Расійскай імперыі доўгі час вызначала грамадскае становішча, магчымыя варыянты індывідуальнага лёсу кожнага чалавека. Магчымасці павышэння сацыяльнага статусу былі звязаны перш за ўсё з атрыманнем адукацыі і поспехамі на дзяржаўнай службе. У паслярэформенны перыяд паступова менш выразнай становіцца залежнасць тыповага жыццёвага сцэнарыя кожнага з грамадзян ад саслоўнага паходжання і адносін да дзяржаўнай службы. Гэта ў найбольшай ступені датычылася адукаванай і эканамічна актыўнай часткі грамадства. У другой палове XIX — пачатку XX ст. ва ўмовах мадэрнізацыі, развіцця новых сацыяльна-эканамічных адносін прадстаўнікі дваранства, мяшчанства, сялянства атрымалі магчымасці змяніць свой саслоўны стан. Міжсаслоўныя перамяшчэнні былі адным з найбольш распаўсюджаных шляхоў вертыкальнай сацыяльнай мабільнасці. Для прадстаўнікоў розных саслоўяў існавалі не аднолькавыя магчымасці падобных саслоўных пераходаў. Сацыяльны статус і роля асобы паступова сталі вызначацца не праз прыпісванне, прымацаванне да пэўнай саслоўнай, статуснай групы, а праз механізмы дасягнення.

Для саслоўнай арганізацыі традыцыйна характэрны невысокія тэмпы сацыяльнай мабільнасці. Расійскае заканадаўства ў другой палове XIX — пачатку XX ст., з аднаго боку, зрабіла больш даступнымі саслоўныя межы мяшчанства, сялянства, фармалізавала прыналежнасць да купецтва, праз царкоўныя рэформы адмяніла замкнёнасць як саслоўя хрысціянскага духавенства, але ў той жа час значна ўскладніла магчымасць атрымання дваранскага звання праз выслугу і ўзнагароды. Рэалізацыя палітыкі «разбору шляхты» ўкладвалася ў

агульную ўрадавую лінію на павышэнне патрабаванняў да атрымання дваранскай годнасці асобамі недваранскага паходжання, якая выразна акрэслілася пачынаючы з 1845 г.

Расійскі даследчык А. П. Карэлін адзначыў істотнае скарачэнне колькасці спадчыннага дваранства заходніх губерняў у прамежку часу паміж 1863 і 1867 гг.: з 402 695 да 241 401 чалавек. Прычыну такога скарачэння даследчык убачыў ва ўдзеле мясцовых дваран у паўстанні 1863 г., звязваў з непасрэднымі людскімі стратамі, высылкай дваран ва ўнутраныя рэгіёны імперыі, іх эміграцыяй, пазбаўленнем правоў стану [13, с. 40]. На дынаміку колькасці вышэйшага саслоўя Беларусі, вымушаную змену мясцовай шляхтай сваёй саслоўнай прыналежнасці фактычна паўплывала завяршэнне працэсу «разбору шляхты».

Дэкласіраваная дробная шляхта па свайму фактычнаму становішчу пакінула межы сваёй страты, вышэйшага саслоўя. У выніку «разбору шляхты» яна пакідала свой ранейшы стан юрыдычна. Аднак псіхалагічна не магла і не хацела адаптавацца да ўмоў падатковых саслоўяў, фактычна склаўшы значную маргінальную групу. Дробная шляхта не адмаўляла сістэму норм і каштоўнасцей саслоўнай групы, з якой яна паходзіла, не прымала звычаі і традыцыі суседняга вясковага насельніцтва, прадстаўнікоў падатковых саслоўяў. Юрыдычна збяднеўшы дваранін карыстаўся правамі свайго саслоўя, але не мог падтрымліваць лад жыцця, тыповы для свайго кола. У поўным сэнсе дэкласіраванне азначала не толькі разбурэнне традыцыйнага для дадзенага класа ладу жыцця, але і разбурэнне асобы чалавека.

Указам імператара ад 23 верасня 1864 г. былі прыняты меры па завяршэнні спраў шляхты, якая прадаўжала даказваць сваю прыналежнасць да дваранскага саслоўя. Усе, хто не быў зацверджаны ў сваёй прыналежнасці да дваранства і не знаходзіўся на дзяржаўнай службе, не меў чыноў і званняў, абавязаны былі да 1 студзеня 1865 г. прыпісацца да аднаго з падатковых саслоўяў і выконваць адпаведна новаму стану павіннасці. У той жа час не адымалася права спрабаваць даказваць сваю дваранскую годнасць. Такое права атрымалі ўсе, хто меў ужо станоўчае рашэнне дваранскага дэпутацкага сходу, чые справы знаходзіліся на разглядзе ў Дэпартаменце герольдыі. У чатырохмесячны тэрмін яны павінны былі дадаткова накіраваць дакументы, якія б пацвярджалі, што не знаходзіліся пад судом за крымінальныя і палітычныя злачынствы, аб прыпісцы адпаведна правіл да падатковага саслоўя і 10 рублёў серабром на кожнага чалавека за выраб пасведчання аб дваранстве ў выпадку станоўчага канчатковага рашэння. Усе справы, па якіх да выдання ўказа ад 13 чэрвеня 1863 г. не было прынята станоўчага рашэння дваранскімі дэпутацкімі сходамі аб прыналежнасці прасіцеляў да вышэйшага саслоўя, лічыліся качаткова завершанымі. Узнаўленне спраў было магчымым толькі па сведчанні грамады, да якой быў прыпісаны былы шляхціц, аб добранадзейнасці і спраўным на працягу трох год выкананні павіннасці, а таксама па прадстаўленні пасведчання аб непазбаўленні правоў па закону [20, с. 908].

Камітэт міністраў, улічваючы, што многія прадстаўнікі незацверджанай у прыналежнасці да вышэйшага саслоўя шляхты не прыпісаліся да падатковых саслоўяў у адпаведнасці з указам ад 23 верасня 1864 г., выдаў 31 снежня 1865 г. новае палажэнне аб парадку прыпіскі былой шляхты да падатковых саслоўяў. Тыя, хто падаў рэвізскія сказкі да 1 студзеня 1866 г., прыпісваліся да таго стану, які яны самі абралі. Асобы, якія не падалі ва ўстаноўлены час дакументы, прыпісваліся «па месцу аседласці» да мяшчанскай ці сельскай грамады. На працягу трох год пасля прыпіскі да падатковага стану прадстаўнікі былой шляхты не ўдзельнічалі ў выбарах і не выбіраліся самі на грамадскія пасады ў сваёй грамадзе [21, с. 413–414].

Захавалася вялікая колькасць архіўных дакументаў з прашэннямі незацверджаных у прыналежнасці да вышэйшага саслоўя шляхціцаў, дзе яны ва ўстаноўлены Сенатам час просяць прылічыць іх да падатковага саслоўя, прычым часта агаворваючы магчымасць далейшых хадайніцтваў аб вяртанні ранейшай годнасці. Большасць такіх дакументаў напісана іншымі асобамі па просьбе заявіцеляў, паколькі апошнія былі непісьменнымі. Так, у снежні 1864 г. дваранін Віцебскага павета Валяр’ян Любартовіч-Княжышча прасіў прылічыць яго да віцебскіх

мяшчан, аднак падкрэсліваў, што ён, як і іншыя прадстаўнікі роду, будзе дабівацца прызнання дваранскай годнасці [29, л. 26]. У лістападзе 1864 г. Іван Любартовіч-Княжышча прасіў прылічыць яго разам з сям'ёй да віцебскай мяшчанскай грамады, паколькі не быў зацверджаны ў прыналежнасці да вышэйшага саслоўя. Немагчымасць змагацца за вяртанне ранейшага стану заявіцель тлумачыў сваёй выключнай беднасцю, стратай сувязяў са сваякамі, адсутнасцю сталага месца жыхарства. [29, л. 54]. Да Будавецкай сельскай грамады Лескавіцкай воласці Віцебскага павета ў лістападзе 1864 г. была прылічана былая дваранка Разалія Мацупевіч, якая ў дакументах адзначалася як асоба, што не памятала сваіх сваяцкіх каранёў [29, л. 31 –37]. У лістападзе 1864 г. часоваабавязаныя сяляне Лескавіцкай воласці выступілі паручыцелямі непаўналетніх Віктара і Фамы Бараноўскіх і іх маці, якія пражывалі на арандаванай зямлі ў Рабушкове, былі не зацверджаны ў сваёй дваранскай годнасці і прылічаліся да мясцовай сельскай грамады [29, л. 38].

Перавод незацверджанай у дваранстве шляхты на справе сустракаў шмат перашкод, у тым ліку ў асяроддзі мясцовых чыноўнікаў. У 1867 г. віленскім генерал-губернатарам Э. Баранавым была створана камісія для раскрыцця злоўжыванняў пры выдачы дакументаў віленскім дваранскім дэпутацкім сходам. За два гады дзейнасці камісія высветліла факты выдачы дакументаў аб дваранскай годнасці асобам, незацверджаным у прыналежнасці да вышэйшага саслоўя, без удакладнення асобы, якая жадала атрымаць дакумент. Акрамя таго, выдаваліся копіі пастаноў дэпутацкага сходу аб далейшым накіраванні ў Сенат дакументаў на зацвярджэнне ў прыналежнасці да дваранства прыватным асобам, якія потым карысталіся правамі вышэйшага стану і ў выпадку незацвярджэння ў прыналежнасці да дваранства ўхіляліся ад прыпіскі да падатковых саслоўяў. Павятовыя прадвадзіцелі дваранства, маючы неправераныя дваранскія сямейныя спісы, выдавалі пасведчанні аб прыналежнасці да вышэйшага саслоўя. Пры гэтым часта не патрабавалася пасведчанне асобы. Віленскім губернскім праўленнем прапаноўвалася разглядаць тых, хто карыстаўся такімі дакументамі і не быў зацверджаны ў сваёй прыналежнасці да дваранства, як беспашпартных, і прымусіць на працягу месяца прыпісаць да падатковых саслоўяў [5, л. 26]. Так, у Пастаўскай воласці Дзісненскага павета было выяўлена 16 дваранскіх сем'яў, дакументы якіх аб прыналежнасці да саслоўя аказаліся нездавальняючымі ці патрабавалася іх прыпіска да падатковых саслоўяў [5, л. 94 – 96]. У Дрыгуцкай воласці таго ж павета пад сумненне трапіла прыналежнасць да вышэйшага саслоўя 9 сем'яў [5, л. 97–98]. У Лужыцкай воласці Дзісненскага павета такіх сем'яў аказалася 30 [5, л. 99–102]. У Лепельскай воласці таго ж павета — 9, а ў Багінскай воласці Дзісненскага павета — 39 сем'яў [5, л. 103–109].

Многія шляхціцы зацягвалі ўласнае прылічэнне да падатковых саслоўяў на працяглы час. Так, у лютым 1894 г. віленская казённая палата звярнулася за дазволам да губернатара прыпісаць да віленскай мяшчанскай грамады Уладзіслава Міцкевіча, які паходзіў з былой шляхты. Такі дазвол быў дадзены ў сакавіку 1894 г. [23, л. 1–2]. У мінскую казённую палату 15 красавіка 1893 г. звярнуўся незацверджаны Герольдыяй у сваёй прыналежнасці да дваранскага саслоўя Казімір Янкоўскі аб прылічэнні ў слуцкія мяшчане. Заявіцель прасіў паскорыць разгляд яго справы, паколькі па ўзросце павінен быў адбываць вайсковую службу. У выпадку ўхілення ад службы ён мог быць арыштаваны, а без вызначэння саслоўнай прыналежнасці трапіць у войска не мог [7, л. 1]. Мінская казённая палата, разбіраючы справу, высветліла, што бацька заявіцеля, Ігнат, лічыўся дваранінам, але адпаведныя дакументы сын прадставіць не змог. Больш таго, ні заявіцель, ні яго маці дваранка Стэфанія Янкоўская не змаглі назваць імёны бацькі і дзеда Ігната Янкоўскага для ўдакладнення саслоўнай прыналежнасці. На момант падачы хадайніцтва ў казённую палату Казімір Янкоўскі быў непісьменны і служыў кучарам у маёнтку Багданаў Слуцкага павета ў памешчыка Загорскага [7, л. 24–26]. У выніку мінская казённая палата адмовіла Казіміру Янкоўскаму ў прыпісцы да мяшчанскай грамады, паколькі той належыў да вышэйшага саслоўя. У тую ж палату 12 чэр-

веня 1893 г. звярнуліся незацверджаныя ў прыналежнасці да дваранства Міхаіл, Адам і Васіль Вашкевічы, якія пражывалі на хутары Дуброва Мазырскага павета. Яны прасілі прылічыць іх да Капаткевіцкай мяшчанскай грамады Мазырскага павета [27, л. 1]. Паказальна, што ў распісцы аб азнаямленні са станоўчым рашэннем казённай палаты, дадзенай заявіцелямі прыставу, усе трое назвалі сябе дваранамі. Акрамя таго, усе яны былі непісьменнымі і звярталіся ва ўстановы праз пасрэдніка [27, л. 7].

Да апошніх дзесяцігоддзяў XIX — пачатку XX ст. адносіцца разгляд шматлікіх спраў, праз якія былыя шляхціцы спрабавалі ў адпаведнасці з заканадаўствам прылічыцца да дваранскіх родаў. Дэпутаты мінскай мяшчанскай грамады 22 чэрвеня 1901 г. вырашылі выдаць мешчаніну Уладзіміру Шалкоўскаму пасведчанне аб спраўным выкананні ім грамадскіх павіннасцей, яго добранадзейнасці і адсутнасці перашкод на прылічэнне яго да дваранскага роду Шалкоўскіх. І той быў прыняты ў мяшчанскую грамаду 3 верасня 1896 г., стала пражываў на станцыі Жлобін Рагачоўскага павета, служыў там на Лібава-Роменскай чыгунцы [19, л. 16]. Мінская мяшчанская грамада сваім рашэннем 9 верасня 1899 г. такое ж пасведчанне выдала і Івану Пажаржыцкаму. Яго бацька Іосіф яшчэ 10 чэрвеня 1869 г. вымушаны быў прылічыцца да мінскіх мяшчан, паколькі не быў зацверджаны ў сваёй прыналежнасці да вышэйшага саслоўя [19, л. 54]. Слуцкае павятовае паліцэйскае ўпраўленне 17 красавіка 1884 г. выдала пасведчанне двараніну Івану Смолічу аб тым, што яго сваякі Уладзіслаў і Іосіф Смолічы былі не пазбаўлены правоў стану і не знаходзіліся пад судом і следствам. Дадзенае пасведчанне было выдадзена ў сувязі з супрылічэннем абазначаных асоб да дваранскага роду. Ужо 21 мая 1884 г. прадвадзіцель дваранства Слуцкага павета перадаў хадайніцтва мінскаму губернскаму прадвадзіцелю дваранства аб супрылічэнні да дваранскага роду Рамуальда Іванавіча, Эдуарда Іванавіча і Уладзіслава Іванавіча Смолічаў, Вацлава-Габрыэля Антонавіча, Гектара Антонавіча і Іосіфа Антонавіча Смолічаў, Вацлава Стэфанавіча і Івана Стэфанавіча Смолічаў [26, л. 5–8].

Некаторыя з зацверджаных у прыналежнасці да вышэйшага саслоўя шляхціцаў вымушаны былі шукаць магчымасці паправіць уласны дабрабыт праз перасяленні. У 1898 г. за дазволам перасяліцца ў Сібір звярнуўся дваранін Іван Зубовіч, які стала пражываў у Юр'еўскай воласці Барысаўскага павета і арандаваў 30 дзесяцін зямлі ў графа Тышкевіча. Збіраўся ён перасяліцца разам са сваёй сям'ёй і сям'ёй брата. Ва ўласным распараджэнні І. Зубовіч меў 4 кані, 18 галоў буйной рагатай жывёлы і інш. Акрамя таго, ён атрымліваў нязначныя заробкі па вырубцы і сплаву лесу [30, л. 4]. З просьбай перасяліцца ў Сібір звярнуўся таксама дваранін Фелікс Бортвік, які пражываў у фальварку Ніўкі Лагойскай воласці Барысаўскага павета. Ён арандаваў 80 дзесяцін зямлі ў графа Тышкевіча. Разам з ім пражывалі два жанатыя яго сыны з сем'ямі [30, л. 8]. З падобнымі просьбамі звярталіся дваранін Казімір Акаловіч, які арандаваў зямлю і займаўся лесасплавам, дваранін Пётр Радкевіч, які таксама жыў на арандаванай зямлі. Абодва паходзілі з Лагойскай воласці Барысаўскага павета [30, л. 11–12, 14–15]. З засценка Лужкі Лагойскай воласці хадайнічаў аб перасяленні дваранін Іван Акаловіч і яго брат Ігнат з сям'ёй. Абодва займаліся арэндай зямлі, сплавам лесу, але не мелі сродкаў для перасялення. Павятовы паліцэйскі чыноўнік па справе І. Акаловіча адзначаў, што той «займаецца хлебаробствам, па занятках сваіх і ладу жыцця нічым не адрозніваецца ад сялян-домаўласнікаў» [30, л. 16–18]. Сацыяльная дэградацыя маргіналізаваных слаёў дробнай шляхты часта станавілася прадметам абмеркавання на старонках перыядычнага друку. Карэспандэнт з мястэчка Суцін Ігуменскага павета Мінскай губерні паведамляў у «Нашу ніву», што тут «больш ста дамоў адной шляхты. <...> Ведама, дзе шляхта жыве, там не вельмі добры парадак. <...> Такая тутэйшая шляхта, што толькі красці і гарэлку піць умеюць» [17, с. 4].

Асуджаныя за злачынствы прадстаўнікі вышэйшага саслоўя, як правіла, пазбаўляліся дваранскай годнасці і пасля адбывання пакарання звычайна прыпісваліся да падатковых

станаў. Архіўныя дакументы захавалі дастаткова шмат спраў з прашэннямі ад пазбаўленых правоў аб вяртанні іх у ранейшы стан. Такія хадайніцтвы звычайна зацягваліся і завяршаліся безвынікова. Так, у 1883 г. рашэннем Віленскай аб'яднанай палаты крымінальнага і грамадзянскага суда дваранін Адольф Францкевіч за крадзеж хатняй скаціны быў прыгавораны да аднаго года турмы і пазбаўлення ўсіх правоў саслоўнага стану. У 1894 г. ён звярнуўся да віленскага губернатара з просьбай атрымаць від на жыхарства. Пасля дэталёвага разгляду справы віленскія губернскія ўлады прынялі рашэнне прыпісаць А. Францкевіча да віленскай мяшчанскай грамады без згоды апошняй. Спробы паліцэйскіх чыноўнікаў давесці заявіцелю рашэнне закончылася няўдала, паколькі яго месца жыхарства не ўдалося тэрмінова высветліць [22, л. 3–4, 7–8]. Пазбаўленне дваранскай годнасці і выпіска з радаслоўных кніг успрымаліся прадстанікамі вышэйшага саслоўя, як вялікая ганьба. У Віцебскай губерні з радаслоўнай кнігі ў перыяд з 1863 па 1866 г. былі выключаны 42 двараніны за палітычныя злачынствы, у 1866 г. — 4 двараніны зноў жа за палітычныя злачынствы і 3 — за крымінальныя, у 1867—1885 гг. за махлярства, падлог дакументаў — 19 [10, с. 32].

Асаблівасцямі ўрадавай палітыкі на тэрыторыі Беларусі вызначалася адносна невялікая ўдзельная вага дваран, якія атрымалі вышэйшую саслоўную годнасць праз дзяржаўную службу ці ўзнагароджанне ордэнам. Калі ў значнай частцы вялікарускіх губерняў такі паказчык складаў у сярэднім 63 %, то ў Магілёўскай губерні — 32,1 %, Мінскай — 12,6 %, Гродзенскай — 20,6 % [10, с. 23]. Дваранства папаўнялася за кошт найбольш паспяховых прадстаўнікоў іншых саслоўяў. Асабістае дваранства выступала ў якасці своеасаблівага клапана, праз які адбывалася папаўненне спадчыннай часткі вышэйшага саслоўя і колькасна, і якасна. Стварэнне інстытута асабістага дваранства было абумоўлена неабходнасцю вылучэння сярод растучага чыноўніцкага апарату, які папаўняўся асобамі featurenaga сацыяльнага стану, больш прывілеяванай групы, якая была набліжана да спадчыннай часткі вышэйшага саслоўя, але не зліваліся цалкам з ёй і станаваліся па меры выслугі крыніцай папаўнення яе [13, с. 37].

Прывілеяванае саслоўе ганаровых грамадзян было створана ў 1832 г. з мэтай абмежавання імкнення адукаваных людзей да атрымання дваранскай годнасці. Яго прадстаўнікі былі вызвалены ад цялеснага пакарання, рэкруцкай павіннасці, падушнага падатку, дысцыплінарнай улады саслоўных аб'яднанняў падатковага насельніцтва. Спадчынныя і асабістыя ганаровыя грамадзяне мелі аднолькавы правы [14, с. 305]. Законам ад 2 ліпеня 1892 г. было дазволена прылічаць да асабістых ганаровых грамадзян любога грамадзяніна, які на працягу 10 год займаўся карыснай грамадскай дзейнасцю.

Фарміраванне саслоўя ганаровых грамадзян спалучала дзве тэндэнцыі. З аднаго боку, старую, фактычна феадальную сістэму набыцця правоў саслоўнай прыналежнасці праз перадачу ў спадчыну ці па нараджэнні. З другога — спроба ўключэння ў дадзеную сацыяльную групу асоб, якія мелі значныя асабістыя заслугі перад дзяржавай і грамадствам не толькі на дзяржаўнай службе, але і ў сферы прадпрымальніцтва, сельскай гаспадаркі, навуковай і культурна-асветніцкай дзейнасці. Ганаровыя грамадзяне ў адрозненне ад іншых саслоўяў па прычыне дастаткова шырокай сацыяльнай базы фарміравання не вылучаліся ўнутраным адзінствам. У іх лік уваходзілі асобы, якія мелі вельмі рознае сацыяльнае паходжанне, сферу дзейнасці, узровень даходаў. У асяроддзі ганаровых грамадзян існавалі розныя сацыяльныя катэгорыі, якія захоўвалі свае ранейшыя саслоўныя правы і прывілеі: купцы — адпаведнае званне і адпаведныя адрозненні, сыны асабістых дваран — магчымасць бесперашкодна паступаць на дзяржаўную службу нароўні з прадстаўнікамі вышэйшага саслоўя.

Залічвацца ў купецтва маглі прадстаўнікі ўсіх саслоўных станаў, за выключэннем дваран і ганаровых грамадзян, якія нават пры ўмове набыцця прамысловых пасведчанняў павінны былі захоўваць сваю саслоўную прыналежнасць [11, с. 84]. Для выхадцаў з падатковых саслоўяў прылічыненне да купецтва суправаджалася неабходнасцю атрымання адмацавання ад іх грамады. У адпаведнасці з Палажэннем 1898 г. змяняўся парадак прылічэння да іншых

станаў асоб, якія пакідалі купецкае саслоўе. З гэтага часу тыя, хто пакідаў купецкае саслоўе, сталі лічыцца асобамі, якія выбіраюць род жыцця. Пасля чаго яны маглі аднавіць сваю прыналежнасць да купецтва ці прылічыцца да мяшчанскай грамады (на што не патрабавалася згоды апошняй) ці да сялян, але па агульных правілах.

У грамадстве, дзе саслоўны пачатак адыгрываў вельмі значную ролю, натуральным было імкненне людзей узняцца па іерархічнай лесвіцы. У гэтым сэнсе купецкае званне было дастаткова зручным, куды можна было трапіць за грошы, хоць і не малыя. Невыпадкова, што сацыяльная мабільнасць у складзе купецкага саслоўя была дастаткова высокай. Тут заўважную ролю адыгрывалі выхадцы з мяшчан і сялян. Да пачатку XX ст. прыкметнай стала тэндэнцыя атрымання саслоўных правоў купецтва з мэтай набыцця ганаровага звання. І яна не была звязана з магчымасцю займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю. У 1913 г. 30 % купцоў першай гільдыі ў Мінску і 63 % — у Віцебску атрымалі адпаведныя пасведчанні з паметкай «для правоў» [27, с. 51]. У 60-х гг. XIX ст. сярод тых, хто прыпісаўся да купецкага саслоўя ў Магілёўскай губерні, 85,26 % былі выхадцамі з таго ж сацыяльнага асяродку, 9,48 % паходзілі з мяшчан, 5,26 % — з сялян [27, с. 58]. Сярод тых, хто быў адлічаны ў купецтва іншых губерняў, не змянілі сваю саслоўную прыналежнасць некалькі больш за палову ад іх агульнай колькасці. З ліку тых, хто пакінуў мяшчанскую грамаду, 44,83 % прыпісаліся да купецкага саслоўя. Сярод сялян такі паказчык склаў 3,44 %. У 1894 г. па Бабруйскім павеце ў купцы першай гільдыі запісаліся 9 чалавек, з іх двое — упершыню. Па саслоўным паходжанні адзін быў выхадцам са спадчынных ганаровых грамадзян, трое — з мяшчан, пяць — з купецкага асяродку. Акрамя таго, 53 чалавекі запісаліся ў купцы другой гільдыі, у тым ліку ўпершыню — 9 чалавек. Па сваей ранейшай саслоўнай прыналежнасці 44 купцы былі выхадцамі з мяшчан, 15 — з уласнага купецкага асяродку і інш. [3, л. 37 – 63].

У ліку мінскіх купцоў першай гільдыі ў 1884 г. 4 прадпрымальнікі былі выхадцамі з мінскіх мяшчан, 1 — з бабруйскіх купцоў, 1 — з мінскіх купцоў другой гільдыі [1, л. 65–66]. Сярод 118 мінскіх купцоў другой гільдыі, уключаных у спісы на 1884 г., 29 чалавек паходзілі з мясцовых купцоў другой гільдыі, 60 прадпрымальнікаў — з мінскіх мяшчан. Акрамя таго, у іх ліку былі, пераважна па аднаму, выхадцы з дваран, купцоў і мяшчан Ковенскай губерні, купцоў і мяшчан Гродзенскай губерні, магілёўскіх, слуцкіх віцебскіх, канатопскіх купцоў, сялян Віленскай губерні, івянецкіх, вяземскіх, ракаўскіх, ігуменскіх, навагрудскіх, віцебскіх, свенцянскіх, крэмянчугскіх, радашковіцкіх, смаргонскіх мяшчан і інш. [1, л. 66–80]. Сярод рэчыцкіх купцоў другой гільдыі, якія выкупілі гільдзейскія дакументы на 1883 г., 24 прадпрымальнікі ўзнавілі адпаведныя дакументы на 1884 г. Да іх ліку далучыліся 4 новыя купцы. У 1884 г. выбылі з гільдыі 5 прадпрымальнікаў [2, л. 5–6]. У ліку рэчыцкіх купцоў былі выхадцы з мясцовых мяшчан, а таксама рагачоўскія, лоеўскія, гродзенскія, гомельскія, лепельскія мяшчане, брагінскія сяляне і інш.

Пацвярджэннем інтэнсіўнай міжсаслоўнай мабільнасці (сацыяльных пераходаў) сярод купецтва можа быць статыстыка набыцця гільдзейскіх пасведчанняў. Напрыклад, у Мінскай губерні ў 1893 г. было набыта 61 гадавое пасведчанне на права гандлю і 8 паўгадавых пасведчанняў першай гільдыі, у 1894 г. адпаведна — 68 гадавых і 9 паўгадавых, у 1895 г. — 63 гадавых і 2 паўгадавых. Купецкіх пасведчанняў другой гільдыі было набыта ў 1893 г. 865 гадавых і 50 паўгадавых, у 1894 г. — адпаведна 857 і 53, у 1895 г. — 1238 і 61 пасведчанняў [18, с. 23].

Асноўнай крыніцай папаўнення шэрагаў купецтва было мяшчанства. У 70-я гг. XIX ст. выхадцы з яго складалі некалькі больш за палову ад агульнай колькасці купецтва беларускіх губерняў, а ў пачатку XX ст. — амаль тры чвэрці [27, с. 55]. Другой па значнасці крыніцай папаўнення сталі выхадцы з уласнага купецкага асяродку — прыпісаныя з іншых мясцін і купецкія дзеці, якія пачыналі весці ўласную прадпрымальніцкую гаспадарку. У 70-х гг. XIX ст. купецтва беларускіх губерняў амаль на 40 % папаўнялася за кошт выхадцаў з уласнага ася-

родку, але ў пачатку XX ст. — толькі на чвэрць [27, с. 56]. Сялянства не склала значную групу, якая папаўняла шэрагі купецтва. Прыведзеныя даныя пацвярджаюць тэндэнцыю пашырэння міжсаслоўнай мабільнасці насельніцтва Беларусі. Частка купецтва была прылічана аднначасова да ганаровага спадчыннага грамадзянства.

Паводле даных па Мінскай губерні ў 80-х гг. XIX ст., выхадцы з мяшчанскага саслоўя складалі асноўную колькасць асоб, якія былі прылічаны да купецтва [27, с. 59]. Сярод тых, хто выпісваўся з купецкага саслоўя ў іншыя губерні імперыі, пераважалі купцы першай гільдыі, што часцей за ўсё было звязана са спробамі купцоў яўрэйскай нацыянальнасці пакінуць рысу аседласці. Сярод купцоў першай гільдыі большасць у 90-х гг. XIX ст. і напярэдадні Першай сусветнай вайны складалі тыя, хто прыналежыў да гэтага звання менш 5 год [27, с. 85]. У Віцебскай губерні ў 1908 г. такіх купцоў налічвалася 60 %, у Мінскай губерні — 57,6 %, а ў Гродзенскай губерні ў 1914 г. — больш 60 %. Каля трэцяй часткі купцоў першай гільдыі мелі стаж знаходжання ў сваёй карпаратыўнай арганізацыі ад 5 да 10 год. Сярод купцоў другой гільдыі ў канцы XIX ст. таксама большасць складалі тыя, хто знаходзіўся ў гільдзействе менш 5 год. Аднак у пачатку XX ст. назіралася тэндэнцыя скарачэння ўдзельнай вагі дадзенай групы.

Эвалюцыя саслоўнага заканадаўства Расійскай імперыі сведчыла аб паступовым фарміраванні грамадзянскай супольнасці і пераходзе да грамадзянскага равенства. Асновай станаўлення раўнапраўнай грамадзянскай супольнасці выступала гарадское саслоўе мяшчан. У прававым сэнсе праналежнасць да яго не вызначалася пэўнымі ўмовамі. Кожны, хто не належаў да якога-небудзь саслоўя, адпаведна расійскаму заканадаўству, абавязкова прылічваўся да мяшчанства. У той жа час прыпісацца да сялянства можна было толькі са згоды сельскай грамады. Прыналежнасць да іншых саслоўяў вызначалася асаблівымі ўмовамі, якія не залежалі ад волі асобных людзей. Атрыманне саслоўнага звання адбывалася праз перадачу яго ў спадчыну ці набывалася шляхам падаравання, выслугі, прыпіскі (для падатковых саслоўяў), паляпшэння адукацыйнага ўзроўню.

Прыналежнасць да мяшчанскага саслоўя была пажыццёвай і перадавалася ў спадчыну, а таксама выключала магчымасць аднначасова знаходзіцца ў іншым саслоўным званні. Атрыманне мяшчанскага стану адбывалася толькі праз прыпіску да мяшчанскай грамады якога-небудзь горада. Паводле даных за 1882, 1883, 1886, 1889, 1890, 1892, 1893 гг., з 77 мяшчан-хрысціян Мінскай губерні, якія перайшлі ў іншыя саслоўі, 12 сталі купцамі, 65 прыпісаліся да сялянства. У гэтыя ж гады 195 мяшчан-іўдзеяў Мінскай губерні, якія перайшлі ў іншыя саслоўі, усе выкупілі гільдзейскія пасведчанні і сталі купцамі [34, с. 254]. Сярод 403 хрысціян, прылічаных да мяшчанства Мінскай губерні ў 1882—1883 гг., 345 паходзілі з сялянства, 49 — з іншых мяшчанскіх грамад, 9 — з ліку замежных грамадзян. З ліку 347 асоб хрысціянскага веравызнання, прылічаных да мяшчан Мінскай губерні ў 1892—1893 гг., 89 былі выхадцамі з сялянства, 128 — з мяшчанства, 130 — з ліку незацверджанай шляхты [34, с. 253].

Параўнальна з апошнімі дзесяцігоддзямі XIX ст. і асабліва пачаткам XX ст. разгляд казённымі палатамі спраў аб пераходзе з аднаго падатковага стану ў іншы ў 60-х гг. XIX ст. быў дастаткова рэдкім. Дадзеную тэндэнцыю выразна пацвярджаюць матэрыялы справаводства, якія захаваліся ў архівасховішчах. У той жа час нават неўзабаве пасля адмены прыгоннага стану пераходы з аднаго саслоўя ў іншае па ўласнай волі, нягледзячы на вялікую бюракратычную абцяжаранасць, былі не адзінкавымі. Так, былы дваравы з маёнтка Сачывок Навагрудскага павета Іван Загурскі ў адпаведнасці з рашэннем мінскай казённай палаты быў 10 кастрычніка 1863 г. прылічаны да мяшчан-хрысціян г. Мінска [24, л. 14]. У справах мінскай казённай палаты за 1863 г. утрымліваецца пайменны спіс прылічаных да мінскіх мяшчан былых вольных людзей з маёнтка Віцкаўшчына, які ўключаў прадстаўнікоў 35 сямей (усяго 73 чалавекі), якія, відавочна, прадаўжалі пражываць у сваёй мясцовасці [24, л. 62–63].

Захавалася вялікая колькасць спраў, прашэнняў за розныя гады аб прылічэнні да мяшчанскіх грамад з боку сялян і мяшчан суседніх губерняў і іншых паветаў беларускіх губерняў. Напрыклад, у студзені 1889 г. падаў прашэнне аб прылічэнні да віцебскай мяшчанскай грамады селянін Курляндскай губерні Ота Кліман, які да гэтага часу разам з сям'ёй пражываў каля 15 год у Віцебскім павеце [6, л. 1]. Прашэнне аб прылічэнні ў віцебскія мяшчане падалі 14 студзеня 1889 г. дочкі селяніна Калужскай губерні Ефрасіння і Соф'я Крыловы. Іх бацька некалькі дзясяткаў год пастаянна пражываў у Віцебску, не выпісваючыся са сваёй сельскай грамады да часу смерці ў 1879 г. Дочкі не былі прылічаны ні да якой грамады [6, л. 14]. У сакавіку 1889 г. падаў прашэнне аб прылічэнні да віцебскіх мяшчан селянін Дынабургскага павета Анрэй Багданаў, які пастаянна пражываў у Віцебску [6, л. 93].

Сустракаліся выпадкі неаднаразовых змен саслоўнай прыналежнасці на працягу аднаго пакалення. Напрыклад, у сакавіку 1889 г. у віцебскую казённую палату звярнуўся беззямельны селянін Мішневіцкай воласці Гарадоцкага павета Фелікс Янкоўскі, які прасіў выключыць яго з гарадоцкай мяшчанскай грамады. У працэсе разбору справы казённая палата высветліла, што ён быў прыпісаны да беззямельных сялян у кастрычніку 1883 г., але не быў выключаны з мяшчанскай грамады, паколькі меў запазычанасці па павіннасцях. Раней у 1875 г. ён разам з братамі Іванам і Вікенціем быў зарэгістраваны купцом г. Гарадка, аднак быў пераведзены ў мяшчане, паколькі не выбраў адпаведныя гільдзейскія дакументы. Пастаянна пражываў Ф. Янкоўскі ў фальварку Клінопаль Віцебскага павета [9, л. 63–65].

Часта ў канцы XIX — пачатку XX ст. сустракаліся выпадкі пераходу з мяшчанскай грамады ў сельскую. Найперш гэта датычылася тых, хто стала пражываў у сельскай мясцовасці і вёў сялянскую гаспадарку. У 1896 г. да віленскага губернатара звярнуўся рыжскі мешчанін, які быў запісаны ў рабочы аклад, — Герасім Паўлаў — з просьбай прыпісаць яго да сялян Іодскай воласці Дзісненскага павета. Но момант падачы звароту заявіцель стала пражываў у засценку Маслянка Іодскай воласці [8, л. 1–2]. Гарадоцкія мяшчане Андрэй і Спірыдон Язерскія 31 сакавіка 1889 г. прасілі віцебскую казённую палату прылічыць іх да сялян вёскі Асінаўка Горкаўскай воласці Гарадоцкага павета, паколькі працавалі па найме ў мясцовых сялян і з часам набылі гаспадарку. Будучы мяшчанамі, яны не маглі абараняць свае інтарэсы на сельскіх сходах. Гарадоцкая гарадская дума не дала братам Язерскім звальніцельнага пасведчання, паколькі на ўтрыманні мяшчанскай грамады знаходзіўся хворы і бяздомны іх брат Фёдар. Таму Андрэй і Спірыдон павінны былі забраць з прытулку брата і пасля гэтага маглі разлічваць на станоўчае рашэнне. Аднак першапачаткова яны адмовіліся апекаваць брата. Пазней, у жніўні таго ж года, у казённую палату паступіла прашэнне ўжо ад пяці братоў — Фёдара, Радзівона, Якава, Спірыдона і Андрэя Язерскіх — аб выключэнні іх з мяшчан і прылічэнні да Хвашнянскай сельскай грамады. Яны атрымалі станоўчае рашэнне і былі прыпісаны да беззямельных сялян вёскі Асінаўка, але ў той жа месяц у казённую палату звярнуўся адзін з братоў — радавы запаса Якаў Язерскі, які прасіў адмяніць рашэнне казённай палаты ў дачыненні сябе асабіста, пакінуць яго ў мяшчанскім стане Але ён атрымаў адмову і прапанову вырашаць гэта пытанне праз звальніцельныя і прыёмныя прыгаворы [9, л. 94–108].

У апошнія дзесяцігоддзі XIX ст. і асабліва ў пачатку XX ст. працэсы сацыяльнай мабільнасці ахапілі сялянства. Для яго была характэрна перш за ўсё гарызантальная мабільнасць, хаця на мяжы стагоддзяў больш частымі становяцца выпадкі вертыкальнай. Для сялянства было характэрна імкненне ўзняць сваё становішча праз пашырэнне ўласнай гаспадаркі, павелічэнне зямельных угоддзяў і, адпаведна, матэрыяльнага дабрабыту. Месца прыпіскі беларускіх сялян да мяшчанскай грамады ў значнай ступені залежала ад рыначнай кан'юнктуры. Напрыклад, у 1882—1883 гг. больш 90 % іх сялілася ў беларускіх гарадах і мястэчках. У 1889—1890 гг. звыш 50 % пераходаў, звязаных з міжсаслоўнай мабільнасцю беларускага сялянства, прыпадала на гарады іншых рэгіёнаў Расійскай імперыі. Менавіта ў гэтыя гады

абвастрылася перанаселенасць і беспрацоўе ў гарадах Беларусі. У пачатку 90-х гг. XIX ст. ужо больш 80 % беларускіх сялян пры сваёй прыпісцы ў мяшчанскае саслоўе выбірала мясцовыя гарады і мястэчкі [34, с. 162].

Атрыманне звальніцельнага пасведчання было неабходным для селяніна не толькі, калі ён пераходзіў у іншую грамаду, але і ў іншае саслоўе, пры паступленні ў вышэйшую навучальную ўстанову і на дзяржаўную службу. Пазбавіць селяніна правоў сельскага стану без усялякіх умоў можна было толькі па прыгавору суда [11, с. 118]. Неабходнасць атрымліваць звальніцельныя грамадскія прыгаворы адпала фактычна пасля выдання ўказа ад 5 кастрычніка 1906 г. Нават пры ўмове набыцця правоў больш высокага саслоўнага стану селянін мог заставацца ў сваёй ранейшай грамадзе да добраахвотнага выхаду з яе. Аднак дзеянне ўказа насіла часовы характар. Прыпіска селяніна да грамады захоўвалася, што забяспечвала выкананне ім адпаведных павіннасцей і выплату падаткаў.

Прадстаўнікі карэннай нацыянальнасці ў Беларусі ў найменшай ступені мелі магчымасці для ўзыходзячай сацыяльнай мабільнасці. Беларусы на тэрыторыі пяці беларускіх губерняў мелі параўнальна невысокі ўзровень адукавасці. А яна ў канцы XIX — пачатку XX ст. выступала найбольш пашыраным сацыяльным ліфтом для руху наверх па сацыяльнай іерархіі. Структура заняткаў і саслоўная прыналежнасць у пераважнай большасці беларусаў былі звязаны з сельскай гаспадаркай і сялянствам. Найбольш здольныя і ініцыятыўныя, каму ўдалося атрымаць адукацыю, трапіць на дзяржаўную службу ці далучыцца да заможных пластоў насельніцтва, вельмі часта імкнуліся забыцца аб сваім этнічным і сацыяльным паходжанні.

Асобы, якія былі пазбаўлены правоў стану, як правіла, за здзейсненае злачынства маглі пасля пэўнага тэрміну прыпісацца да якога-небудзь сельскага таварыства [14, с. 278–279]. У 1895 г. па Мінскай губерні было зарэгістравана 484 злачынствы, за якія асудзілі 689 чалавек. Па саслоўным паходжанні сярод іх 32 былі спадчыннымі дваранамі, 2 — асабістымі дваранамі, 181 — купцамі і мяшчанамі, 438 — сялянамі, 10 — ваеннага звання і інш. Спадчынныя дваране-злачынцы ў той час склалі 0,06 % ад агульнай колькасці саслоўя ў губерні, асабістыя дваране-злачынцы адапаведна — 0,02 %, мяшчане — 0,04 %, купцы — 0,02 %, сяляне — 0,03 % [18, с. 23].

Вынікам працэсаў сацыяльнай мабільнасці з'яўляецца маргінальнасць. Да ліку маргіналаў адносяцца людзі, якія пакінулі адну сацыяльную групу і не адапатаваліся да другой, займаюць пагранічнае, прамежкавае становішча. Маргінальнасць характарызуе становішча групы ці індывіда ў працэсе сацыяльнага перамяшчэння ці асобна групу, якая знаходзіцца ў маргінальным становішчы ў сацыяльнай структуры. Пад маргінальнасцю можа таксама ўспрымацца разрыў сацыяльных сувязяў паміж індывідам і грамадствам. Індывідуальная маргінальнасць звязана з няпоўным уваходжаннем індывіда ў новую групу і адчужэннем яго ад групы паходжання, якая адмаўляе яго як адступніка. Групавая маргінальнасць узнікае ў выніку змен у сацыяльнай структуры грамадства.

**Высновы.** Пашырэнне пераліку дапушчальных заняткаў для кожнага з саслоўяў, зніжэнне парога саслоўных меж, павелічэнне ролі другасных (не прапісаных), адпаведна расійскаму заканадаўству, паказчыкаў вызначэння саслоўнай прыналежнасці (такіх як, напрыклад, адукацыя і прафесійная дзейнасць у недзяржаўных камерцыйных установах), пашырэнне магчымасцяў між- і ўнутрысаслоўнай мабільнасці, пераўтварэнне шэрагу саслоўяў з цягам часу фактычна ў ганаровыя званні (без істотных ільгот і пераваг) вяло да паступовага разбурэння саслоўнага ладу. Накіраванасць і практычная рэалізацыя абазначаных тэндэнцый на тэрыторыі беларускіх губерняў была скарэкціравана асаблівасцямі і задачамі ўрадавай палітыкі ў рэгіёне. У той жа час магчымасць сацыяльнай мабільнасці ўмацоўвала стабільнасць грамадства. Актывізацыя і ўскладненне форм сацыяльнага жыцця ў апошнія дзесяцігоддзі XIX — пачатку XX ст. патрабавала пашырэння шляхоў і ўцягнення ў працэсы сацыяльнай

мабільнасці ўсіх груп насельніцтва. Аднак для Расійскай імперыі асноўны прыярытэт склала захаванне стабільнасці пануючага рэжыму. Адным з асноўных прынцыпаў, які дазваляў ўратаваць цэласнасць шматнацыянальнай імперыі, быў саслоўны, які вызначаў сацыяльныя сувязі [12, с. 120]. Шляхі вертыкальнай сацыяльнай мабільнасці ў прадстаўнікоў розных саслоўяў і груп грамадства Беларусі ў даследуемы час не былі аднолькавымі. Узыходзячая сацыяльная мабільнасць мела месца пры атрыманні вышэйшай адукацыі, паступленні на дзяржаўную службу.

## ЛІТАРАТУРА


1. Ведомости Минского губернского казначейства, городской управы о лицах, записавшихся в купеческое сословие по г. Минску и Минскому уезду за 1884 г. // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ). Ф. 333. Воп. 4. Спр. 5416.

2. Ведомости Минского губернского казначейства, городской управы о лицах, записавшихся в купеческое сословие по Речицкому уезду за 1884 г. // НГАБ. Ф. 333. Воп. 4. Спр. 5419.

3. Ведомость о лицах, записавшихся в купеческое сословие по Бобруйскому уезду за 1894 г. // НГАБ. Ф. 333. Воп. 4. Спр. 6873.

4. *Виртшафтер, Э. К.* Социальные структуры: разночинцы в Российской империи / Э. К.Виртшафтер; пер. с англ. Т. П.Вечериной; под ред. А. Б. Каменского. М. : Логос, 2002. 272 с.

5. Дело об утверждении в дворянском сословии разных лиц Виленской губернии // Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (далей — ДГАЛ). Ф. 381. Воп. 17. Спр. 5850.

6. Дело по прошению крестьян сельских обществ Могилевской, Лифляндской, Калужской, Курляндской губерний, мещан Велижского, Городокского, Дриссенского, Лепельского, Невельского, Режицкого уездов Витебской губернии о причислении к витебскому мещанскому обществу // НГАБ. Ф. 2640. Воп. 1. Спр. 466.

7. Дело по прошению неутвержденного Герольдией дворянина Янковского о причислении его к слуцким мещанам // НГАБ. Ф. 333. Воп. 4. Спр. 6688.

8. Дело по прошению старообрядца, рижского мещанина Герасима Сергеева Павлова о причислении его к крестьянам Иодской волости Дисненского уезда // ДГАЛ. Ф. 381. Воп. 19. Спр. 3607.

9. Дело по прошениям мещан городокского мещанского христианского общества, крестьян сельских обществ Лифляндской губернии, Витебского и Городокского уездов Витебской губернии о причислении к сельским обществам Городокского уезда // НГАБ. Ф. 2640. Воп. 1. Спр. 467.

10. *Жытко, А. П.* Дваранства Беларусі перыяду капіталізму. 1861—1914 гг. / А. П. Жытко. Мінск : БДПУ, 2003. 233 с.

11. *Иванова, Н. А.* Сословно-классовая структура России в конце XIX — начале XX века / Н. А. Иванова, В. П. Желтова. М. : Наука, 2004. 574 с.

12. *Каппелер, А.* Россия — многонациональная империя / А. Каппелер. М. : «Традиция» — «Прогресс-Традиция», 2000. 344 с.

13. *Корелин, А. П.* Дворянство в пореформенной России (1861—1904): состав, численность, корпоративные организации / А. П. Корелин. М. : Наука, 1979. 304 с.

14. *Коркунов, Н. М.* Русское государственное право / Н. М. Коркунов. СПб.: тип. М. М. Стасюлевича, 1909. Т.1: Введение и общая часть. 623 с.

15. *Макарэвіч, В. С.* Дробная шляхта Беларусі ў 30—60-я гг. XIX ст.: склад і эвалюцыя сацыяльна-прававога становішча.: дыс. ... канд. гіст. навук: 07.00.02 / В. С. Макарэвіч. Мінск, 2008. 158 с.

16. *Миронов, Б. Н.* Историк и социология / Б. Н. Миронов. Л. : Наука, 1984. 174 с.

17. Наша ніва. 1912. 19 (2) крас. (Факс. выд. Вып.5. Мінск : Тэхналогія, 2009).

18. Обзор Минской губернии за 1895 год. Приложение ко всеподданнейшему отчету минского губернатора. Минск : Губ. тип., 1896. [2], 54, [52] с.

19. О выдаче приемных и увольнительных приговоров и приговоров или свидетельств на сопричисление в дворяне или для поступления в учебные заведения и на государственную службу // НГАБ. Ф. 330. Воп. 1. Спр. 1108.

20. О мерах к успешнейшему окончанию дел о правах лиц, доказывающих дворянское достоинство по происхождению от бывшей польской шляхты, 23 сентября 1864 г., № 41299 // Полное собрание законов Россиийской империи. Собрание 2-е: в 55 т. СПб., 1867. Т. 39. Отд. 1. С. 907—909.

21. О порядке приписки лиц бывшей польской шляхты в податные сословия, 31 декабря 1865 г., № 42858 // Полное собрание законов Россиийской империи. Собрание 2-е: в 55 т. СПб., 1867. Т. 40. Отд. 2. С. 413—414.

22. О приписке к Виленскому мещанскому обществу лишенного прав Адольфа Францкевича // ДГАЛ. Ф. 381. Воп. 19. Спр. 3283.

23. О причислении к виленским мещанам происходящего из бывшей польской шляхты Владислава Казимировича Мицкевича // ДГАЛ. Ф. 381. Воп. 19. Спр. 3281.

24. О причислении разных лиц в число мещан г. Минска // НГАБ. Ф. 24. Воп. 1. Спр. 1625.

25. *Панютич, В. П.* Из истории формирования пролетариата Белоруссии (1861—1914 гг.) / В. П. Панютич. Минск: Наука и техника, 1969. 192 с.

26. Переписка с минским губернским правлением, Виленской судебной палатой, уездными предводителями дворянства о выдаче дворянам свидетельств о несудимости и несостоятельности, прошения дворян о предоставлении их детям в учебных заведениях стипендий от дворянства // НГАБ. Ф. 320. Воп. 1. Спр. 507.

27. *Полетаева, Н. И.* Купечество Беларуси: 60-е гг. XIX — начало XX в.: Монография / Н. И. Полетаева. Минск : БГЭУ, 2004. 247 с.

28. По прошению неутвержденных Герольдией дворян Мозырьского уезда Вашкевичей о причислении к Копаткевичскому мещанскому обществу // НГАБ. Ф. 333. Воп. 4. Спр. 6650.

29. Прошения, посемейные списки, ревизские сказки дворян, причисленных к податным сословиям Витебского уезда // НГАБ. Ф. 2640. Воп. 1. Спр. 245.

30. Рапорты уездного исправника и сведения о семейном и имущественном положении крестьян, ходатайствующих о переселении их в Сибирь // НГАБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 2778.

31. *Сорокин, П. А.* Человек. Цивилизация. Общество / П. А. Сорокин; общ. ред., сост. и предисл. А. Ю. Согомонов: пер. с англ. М. : Политиздат, 1992. 543 с.

32. *Токць, С.* Беларуская вёска ў эпоху зьменаў: другая палова XIX — першая траціна XX ст. / С. Токць. Менск: Тэхналогія, 2007. 308 с.

33. *Улашчык, М.* Была такая вёска: гіст.-этнаграф. нарыс / М. Улашчык. Мінск : Маст. літ., 1989. 174 с.

34. *Шыбека, З. В.* Гарады Беларусі (60-я гг. XIX — пачатак XX ст.) / З. В. Шыбека. Мінск : Эўрофорум, 1997. 292 с.

## РЕЗЮМЕ

В статье определены основные направления, каналы межсословной социальной мобильности населения белорусских губерний во второй половине XIX — начале XX в. На основе анализа многочисленных архивных документов охарактеризованы социальные перемещения представителей дворянства, купечества, мещанства, крестьянства Беларуси.

## SUMMARY

The main directions and channels of the interestate social mobility of the population of Belarusian provinces in the second half of the XIXth — the beginning of the XXth century are defined in the article. On the basis of the analysis of numerous archival documents the social movements of the representatives of Belarusian gentry, merchants, petty bourgeoisie and the peasantry are characterized.

Статья поступила в редакцию 11 мая 2011 г.